Чытайце: НАША СПРАВА ПЕРАМАГЛА | ЛЮБА ПАРТЫЗАНКА | БОЛЬШ СВЯТЛА


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (499) | ГОД X | 18 ЛІПЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.


## НАСТАЎНІКІ ПАЕХАЛІ У МІНСК

Цэлы месяц будзе на курсе настаўнікаў беларускай мовы ў Мінску дваццацiасабовая група настаўнікаў з Польшчы. Іх гасцінна прыняў Педагагічны інстытут імя М. Горкага, у памяшканні якога слухаюць яны лекцый адных з лепшых беларускіх моваведаў, літаратуразнаўцаў і метадыстаў. Пасля заняткаў будуць арганізавацца экскурсіі ў музеі і іншыя мясцовасці Беларусі. Настаўнікі будуць наведваць тэатры, кіно, а таксама іншыя культурныя і грамадскія ўстановы. У сувязі са святкаваннем 21 гадавіны ПНР возьмуць яны ўдзел у гарадскім сходзе, скліканым па прычыне нашага нацыянальнага свята. (к)



У святочным настроі

**З нагоды свята Адраджэння Польшчы членам, сімпатыкам БГКТ і чытачам «Нівы» складаем сардэчныя віншаванні.**

**ГП БГКТ**
**і Рэдакцыя «Нівы»**

## САКОЛЬСКІ ЛЁС

Мой сябра называецца Алёша і паходзіць з Гайнаўскага павета. Павёз я яго на родную Сакольшчыну — пясчанымі сцежкамі - дарожкамі да Новага Вострава, Лішчаной, Нетупы, пакрай Цюміцкіх зараснікаў. Адпачывалі ў ценю саламяных хутароў, бачылі захад сонца па-над маляўнічымі пусткамі Клябанаўскіх гораў, слухалі вечаровага звону з Крынак - мястэчка, што ў нізіне. Думалі пахадзіць па Дзеразінскіх балотах у пушчы, каб пабачыць лясных арлоў і доўга ўглядаліся ў залацістую сцяну стрункіх соснаў, ля падножжа якіх гаспадар араў сваю палоску.

Алёшка сказаў:

— Гляджу на тваю Сакольшчыну ўсё роўна, як на малюнкі ў паэме «Новая Зямля» Якуба Коласа.

Гэтымі словамі Алёша сказаў тое, што прыгожая Сакольшчына, але жыццё на ёй незайздроснае. Алёшава рацыя кідаецца ў вочы першаму лепшаму прыезджаму чалавеку. Зямля тут бедная, а вёскі заглохлыя, лясунскія. Першы подых шырокага (і багатага) свету даносіць сюды электрычнае святло, ад якога жмурацца прывыклыя да капцілак вочы, ад якога пачынае іграць і гаварыць радыё ды паказваць свае цуды-цудныя тэлевізар у вясковай школе альбо ў багацейшай хаце.

Але людзям гэтай зямлі цяпер таго ўжо замала, яны хочуць таксама лепей жыць, навучыцца лепей працаваць. У павятовых канторах падлічылі, што гаспадары купляюць у дванаццаць разоў больш штучных угнаенняў, чым чатыры гады таму назад. Лічба вучняў у СПР-ах павялічылася ўтрая — дасягнула 633 асобы. Людзі хочуць таксама выгадней жыць, нават дзяды пачынаюць ездзіць «раварамі», а маладыя матацыкламі. У канцы мінулага года было ў сакольскіх хатах 3.045 матацыклаў і налічана 89 уласных легкавых машын («таксовак»).

Але штучныя ўгнаенні не зробяць пясчаных палосак чарназёмнымі, а ўласныя матацыклы — гэта яшчэ не багацце.

Патрэбны размах, на Сакольшчыне ёсць дзе размахнуцца.

Даволі кінуць вокам на вялікія, дзікія лугі, якія вясною і летам ладзяць свой шматгалосны жабіны канцэрт пасярод паласатых палеткаў, каля крутых гасцінцаў і ў дрымучых лясных урочышчах пакрай дрыгвяністых рэчак Сакалды, Слоі, Нетупы. Астраўляне косяць сваё дзеразінскае сена па калені ў вадзе. Так званае сенаванне на Нетупе патрабуе амаль цыркавай акрабатыкі, каб не ўваліцца ў хісткую твань лапухаватых азёрцаў. Лугі сакольскія маюць асобную назву — «азярок», «на азярках», «ў азярку».

Вялікая меліярацыя — гэта вялікая будучыня для вёсак, што прыталіліся ля спечаных сонцам жвіраватых абрываў Клябанаўскіх гор, каля купяністых выганаў астроўскай «бяздонніцы». Вялікая перспектыва для ўсіх тых Астроўкаў, Востраваў, Нетуп незатопленых, Крынак з крыніцамі, Азерскіх з азяркамі, Раўкоў з равамі, у якіх цвіце водная лілея.

Адбываецца рэгуляцыя рэк Сакалды і Слоі, гаспадары памагаюць як могуць меліяратарам, вартасць іх чынаў перавышае мільёны злотых. Пяскі шостага класа ідуць пад пасадкі лесу — засаджана 1 330 гектараў. Пачалася вайна за багатае сена, за тое, каб магчы трымаць па некалькі малочных кароў і мець грошы на рукі за малако. Вялізны абшар 6.812 гектараў лугоў будзе меліяраваных і загаспадарава-

(Працяг на стар. 5)

## ЗА СВАБОДУ

Свята Адраджэння — гэта свята радасці, свята падвядзення вынікаў пройдзенага шляху народнай уладай. Адначасова гэта свята ўспамінаў і падкрэслівання ролі тых людзей, якія наблізілі вызваленне нашай краіны не толькі ад гітлераўскіх захопнікаў, але і ад памешчыкаў і капіталістаў. За справядлівы лад, за ўладу працоўных многія змагары аддалі жыццё, многія перанеслі жахі турэмнага зняволення. Да такіх людзей належыць Трафім Панфілюк, які жыве ў вёсцы Дубічы Царкоўныя, што на Гайнаўшчыне.

Жыццёвы шлях яго — гэта змаганне з сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасцю. Ад 1923 года з'яўляецца ён членам Камуністычнай партыі Польшчы, супрацоўнічае з членамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Ходзіць на супольныя сустрэчы з КПЗБ-оўцамі ва ўрочышчы Бабка, дзе супольна абмяркоўваюцца планы дзейнасці. Многа было арганізавана мерапрыемстваў і акцый. Трафім Панфілюк неяк асабліва з вялікім задавальненнем расказвае аб падзеях на Ганну 9-га жніўня 1925 года. У гэты дзень у Старым Корніне вялікае царкоўнае свята. Збіралася заўсёды многа людзей. Вельмі выгадная аказія масава пазнае-

(Працяг на стар. 4)



Не спяшай ісці дадому,
Любая мая...
Нам, забыўшыся на стому,
Трэба пастаяць.




ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 29 (390) 18 ЛІПЕНЯ 1965 г.

# ДЗЕНЬ АДРАДЖЭННЯ

**22 ліпеня ў нас вялікае свята — Дзень Адраджэння. 21 год жыве народ ў нанова адроджанай, народнай Польшчы.**

У першыя ж дні вызвалення ад нямецкай акупацыі на вызваленых раёнах польскай зямлі арганізавалася народная ўлада.

22 ліпеня 1944 года ў горадзе Хэлм (Люблінскае ваяводства) Польскі Камітэт Народнага Вызвалення апублікаваў Маніфест, які накрэсліў асноўны напрамак будовы новага ладу ў Польшчы. Ліпеньскі маніфест ПКВН палажыў канец сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці. Усе, хто працуе, маюць аднолькавае права на добрае жыццё. Ад гэтага дня няма ў нас прыгнятальнікаў і няма прыгнечаных. Усе людзі роўныя, людзі ўсіх нацыянальнасцей маюць роўныя правы.

Гэты дзень пачаў новую эру ў гісторыі Польшчы. Польшча стала сапраўднай айчынай працоўнага люду, які паспяхова будуе сацыялізм.






# ПРЫГОДЫ ХЛОПЧЫКА ІЛАРЫКА

## Як Іларык у трубе падарожнічаў

Недалёка будаваўся новы корпус дома адпачынку. Там ляжалі горы цэглы, бярвенняў, дошак і розных труб. Перш-найперш Іларык зацікавіўся трубамі. Сярод іх былі не трубы, а сапраўдныя бярвенні. Кінеш у такую трубу мяч, а ён і выскачыць з другога канца. «А што, калі б і самому пралезці праз такую трубу?» — мільганула спакуслівая думка.

Спачатку Іларык засунуў у трубу толькі рукі. Яны свабодна ляглі там. Тады ён прасунуў галаву. І галаве знайшлося месца. Вось ужо і плечы паплылі за галавою, як падмазаныя. Цяпер ён і сам не апамятаўся, як апынуўся ў трубе ўвесь — з галавою і нагамі.

Што ж рабіць далей? Спалохацца і паўзці назад ці смела рушыць наперад?

Іларык быў не з палахлівага дзесятка. І, вядома, не спалохаўся. Ён ясна бачыў перад сабою святло з другога канца трубы. «Ура! — закрычаў Іларык сам сабе. — Наперад!» І папоўз, жвава перабіраючы рукамі і нагамі.



Іларык аж спацеў, пакуль нарэшце выплыў з трубы.

— Ух! — радасна ўсклікнуў ён. — Ну і здорава! — такога незвычайнага падарожжа яшчэ не рабіў ніхто з яго сяброў. Вось будуць яны зайздросціць, калі даведаюцца.

Шчаслівы падарожнік вярнуўся дадому. Маці як убачыла яго, так і ахнула:

— Дзе ты быў? Які ў цябе касцюм? А галава?

Іларык толькі цяпер глянуў на свой касцюм. І не пазнаў. Замест новага светлага на ім быў нейкі стары брудна - рыжы касцюм...

Паглядзеў у люстэрка — і праўда: перад ім быў не Іларык, а нейкі незнаёмы хлопчык. Брудная ржа з трубы расфарбавала яго твар і валасы тэтак жа, як і касцюм.

— Даю табе, мама, чэснае слова, — сказаў Іларык, — што больш у касцюме я ў трубу не палезу...

Іларык не парушыў свайго слова, хоць яму і вельмі хацелася яшчэ раз паспрабаваць такога шчасця — пралезці праз трубу. Цяпер ён толькі ганяў праз трубы свой мяч.



І раптам здарылася так, што мяч не выкаціўся з трубы. Іларык прыгнуўся, паглядзеў — мяч спыніўся на сярэдзіне трубы. Як жа яго дастаць?

Доўга думаў Іларык, як дастаць мяч. І нічога лепшага не мог прыдумаць, як лезці па яго самому. Маці дакарала Іларыка за новы касцюм. Гэта праўда. Дык ён палезе без касцюма. Слова свайго ён не парушыць. Але ж труба ў сярэдзіне няроўная, калючая.

Іларык пакруціўся кругом і ўбачыў бялізну, якая сушылася на вяроўцы недалёка ад жылога доміка. «А што, калі ўзяць прасціну ды захінуцца? — падумаў Іларык. — Ніхто не ўбачыць».

Так ён і зрабіў. Касцюм свой скінуў, а сам абхінуўся прасцінаю і нырнуў у трубу.

Ён спяшаўся, хутка перабіраў рукамі і нагамі. І ўжо дапоўз траха не да самага мяча, як раптам адчуў, што прасціна не пускае яго далей. Іларык зусім заблытаўся ў ёй. Прасціна спутала яму рукі і ногі. Ні наперад няма ходу ні назад.

Патузаўся Іларык у сваім мяшку і прыціх. Што ж рабіць? Паклікаць на дапамогу? Але ж ён і раней гэтага не рабіў, калі трапляў у бяду. Ды і прасціна на ім чужая...

Іларык ляжаў у трубе і думаў сваю невясёлую думку.

А час ішоў. Адвячоркам маці ўспомніла пра Іларыка. Дзе ж ён запрапаў? Паклікала. Не адгукаецца.

А калі пачало цямнець, маці зусім устрывожылася. Ніхто нідзе яго не бачыў.

Усе жыхары дома адпачынку выйшлі на пошукі Іларыка. Адны кінуліся ў лес, другія да ракі.

— Іларык! Іларык! — чулася з усіх бакоў.

Выкрыкі гэтыя даляталі да самога Іларыка. Ён нават спрабаваў адклікнуцца, ды ніхто яго не пачуў. Рабочыя даўно ўжо скончылі работу, і на будоўлі цяпер нікога не было.

Прасветы ў трубе, перагароджаныя мячом, усё цямнелі і цямнелі. Іларык страціў усялякую надзею вырвацца са свайго палону.

У гэты час каля будоўлі праходзіў начны вартаўнік Мірон. Раптам ён пачуў слабы дзіцячы плач.

— Хто тут?

— Я, Іларык, — пачуўся піскліві галасок з трубы.

— Дзе ты тут? — дапытваўся вартаўнік. — Ці не ў трубе?

— Ага, у трубе, — адказаў Іларык.

Калі дзядзька Мірон разабраўся, чаму Іларык не можа сам вылезці з трубы, ён сказаў заклапочана:

— Пачакай, хлопча, я зараз людзей паклічу.

Ён падняў дубальтоўку ўгору і бабахнуў раз за разам з абодвух стваалоў. Хутка да трубы пачалі збірацца людзі.

**Алесь Якімовіч**



# Чараўнік

Пайшла бабуля на рынак
Глядзіць — веснічкі зламаныя.



Вярнулася бабуля дадому,
Глядзіць: веснічкі зусім цэлыя.

Пайшла бабуля на агарод,
А там шпакоўня вісіць.



Здзівілася бабуля: ці часам не чараўнік вакол хаты ходзіць? Выглянула на вуліцу і ахнула: ля плоту новая лавачка.

Села бабуля на лавачку і задумалася. Многа год пражыла яна на свеце, а такога цуда не бачыла.



Забылася бабуля, што ўчора падарылі Андрэйку малаток і гэблік. Вось хто чараўнік!

Уладзімір Дубоўка

# МІЛАВІЦА

(частка 4)

Сумны ён прыйшоў дахаты.
Расказаў суседзям, тату,

расказаў і маці роднай
аб дзяўчыне той цудоўнай.

Расказаў пра чаравікі
і пра смутак свой вялікі,

што яго ніяк не кіне.
А пасля ўзяў начынне,

начасаў сухога клёну,
абстругаў калодкі роўна

і зрабіў два капылочкі
на дзяўчыніны слядочкі.

Хвошч узяўшы жменяй поўнай,
капылочкі тыя цёр ён,

аж пакуль зазіхацелі
з клёну добрага мадэлі.

Адшукаў пясочак чысты,
самы дробны, пазлацісты.

Перасеяў у начоўкі
ён пясочак сітам тонкім.

Тут пайшла ужо не работа,
а вялікая турбота.

Як паставіць капылочкі
ў пазлацістым пясочку,

дык стаяць зусім нядрэнна,
а падыме — ўсё дарэмна!

Абсыпаецца пясочак —
не трымае капылочак.

Прыціскаў яго рукою,
паліваў пясок вадою, —

як падыме капылочак —
абсыпаецца пясочак...

Задала яна задачу!
Хлопец ледзьве не заплача.

Прыкра стала:
за жыццё рабіў нямала,

а з пяску зрабіць не можа
чаравічак ён прыгожых...





## Самадзейнікі з Доўгага Броду

Пры чатырохкласнай школе ў Доўгім Бродзе Гайнаўскага павета існуе добра сарганізаваны вучнёўскі самадзейны калектыў пад кіраўніцтвам настаўніцы Любы Сегень. Мастацкі калектыў мае багатую праграму, на якую складаецца п'еса «Суд» Галубка, сцэна «Райка», танец «Бульба», танец «паяцык», а таксама некалькі песень і танцаў на польскай і рускай мовах. Дзеці — артысты выступалі з сваёй праграмай у сваёй роднай вёсцы, а таксама пабывалі ў суседніх школах. Усюды іх гасцінна ўспрымалі і ўзнагароджвалі бурнымі апладысментамі. На выступленні прыходзілі таксама і старэйшыя і былі надта задаволены. Пасля выступленняў дзеці нavязалі з сабой знаёмствы, якія пераўтварыліся ў шырокую дружбу. Многія з іх пасля такога візіту перапісваюцца — абменьваюцца вопытам у навуцы, а таксама дзеляцца ўсімі радасцямі і смуткам. У многіх школах пасля мастацкай часткі, адбываліся супольныя вучнёўскія гульні.

ЯНКА Б.




Танцавальная група вучняў з Доўгага Броду Гайнаўскага павета пасля выступлення ў Чэхах Арлянскіх на Дзень Дзіцяці.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Дарагая «Зорка» я хачу перапісвацца з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ. Вучуся ў V класе сярэдняй школы. Вельмі люблю чытаць «Зорку» і «Ніву».

Мой адрас:
**Мікалай Красноўскі**
вёска Ласінка
пошта Ласінка
павет Гайнаўка.



### ЗАГАР

І праўду кажуць: добрага патроху,
Перастараешся — і справа дрэнь...

Прыспічыла Цімоху
На сонцы смажыцца ўвесь дзень.
Памлець, нагрэцца любата такая,
Здаецца б, тут да вечара засну,
То левы бок ён падпякае,
То выцягнецца на спіну.
— Кашулю нацягні, схавайся ў цянёк,
А то ў бальніцу трапіш, галубок! —
Добразычліва хтось засцерагае, —
Благія з сонцам жарты...
Цімох і ўвагі не звяртае!
Маўляў: «Ніколі слухаць мне не варта...»
Пот коціцца з Цімоха градам,
Ужо не ўзнецца за плячук,
Ну, а хлапчук
Бязмежна рады:
— Вось загару, што чорны жук!

Хварэў Цімошка тыдзень цэлы,
Пакуль загар зрабіўся белым...

Эдуард Валасевіч

### ВЯСЁЛКА

Паглядзіце, паглядзіце,
Дождж прайшоў. А вунь у жыце
Дуга выгінаецца,
З сонейкам вітаецца,
Ой, сабрала кветак колькі
Каляровая вясёлка:
Сінія, зялёныя,
Жоўтыя, чырвоныя!
Кажа Каця:
— Пабягу
І вазьму тую дугу.
Паглядзіце, паглядзіце,
Яна ў лузе, а не ў жыце,
А на лузе кветкі толькі —
І няма зусім вясёлкі,
Рады мы бясконца
Дожджыку і сонцу.



## Для самых маленькіх



### КОЗЛІК

БЕГАЎ КОЗЛІК ДА ВАДЫ —
ПРЫЧАПІЛІСЯ ДЗЯДЫ.
БЕГАЎ ЁН У АГАРОД —
АБАДРАЎ НАГУ АБ ПЛОТ.
У СУСЕДНІ ЗБЕГАЎ САД —
ТАМ СУСТРЭЎ МАЛЫХ РАБЯТ.
ТЫЯ КАЖУЦЬ:
— ГЭЙ, КАЗЮЛЯ!
ТЫ ПА ШТО ПРЫЙШОЎ —
ПА ДУЛІ?
ПА КЛУБНІКУ ЦІ МАЛІНУ
ЦІ ПА СМАЧНУЮ АЖЫНУ?
А КАЗЁЛ МАЛЕНЬКІМ:
— НЕ-Э-Э!
ДУЖА СУМНА
СТАЛА МНЕ-Э-Э!

Е. Лось

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Вёскай кіруюць жанчыны

Ужо дзесяць год солтысам у Вольцы Тарахоўскай, Гайнаўскага павета, з'яўляецца Аляксандра Назарук. Абавязкі солтыса яна пераняла на сябе зараз пасля смерці бацькі, які дагэтуль выконваў гэтую функцыю. Аднавяскоўцы маюць давер да гэтай жанчыны і ўжо тры разы па чарзе выбіраюць яе солтысам. Кажуць, што ніхто другі так не пакіруе справай вёскі, як Аляксандра Назарук. Дзякуючы яе старанням часткова чынам, а рэшту шарваркам пабудавана прыгожую жвіраваную дарогу з вёскі Волькі Тарахоўскай да Чаромухі адлеглай у 3 кіламетры. Раней на гэтай дарозе было па калені балота, немагчыма было прайсці, а не толькі праехаць. Да гэтага часу ў вёсцы не было брукаванай вуліцы і ў час мокрай пары года людзі тапіліся ў балоце.

Дзякуючы арганізатарскай ролі солтыса сяляне прыступілі да будовы брукаванай маставой. У вёсцы існуюць грамадскія і палітычныя арганізацыі як: ПАРП, Гурток вясковых гаспадынь, Сельскагаспадарчы гурток і іншыя. Ва ўсіх гэтых арганізацыях Аляксандра Назарук з'яўляецца актыўным грамадскім дзеячом. Кожны заложаны ў вёсцы гурток праяўляе вялікую актыўнасць і ў кожным з іх многа жанчын, якія выказваюцца актыўнай працай. Трэба дадаць, што кіраўніком школы ў Вольцы Тарахоўскай з'яўляецца таксама жанчына, настаўніца, Надзя Аўдасюк, якая таксама актыўна ўдзельнічае ва ўсіх пачынаннях вёскі і памагае ажыццяўляць яе планы. Словам вёска, якой кіруюць жанчыны і то кіруюць зусім добра.

**Янка Б.**
Гайнаўскі павет

## Каштоўная ініцыятыва

З ініцыятывы ГРН у Белавежы жыхары гэтай асады вырашылі грамадскім чынам прыступіць да пабудовы дзетсада і купальнага басейна. Ужо на дзетсад падрыхтавана тэхнічная дакументацыя і падрыхтаваны будаўляны матэрыял. Працаўнікі надлясніцтваў у Белавежы і Звярынцу грамадскім чынам на месца будовы даставілі жвір і каменне. Кошт будовы дзетсада складае суму 670 тыс. зл., а купальнага басейна больш як 400 тыс. зл. Павятовая рада нарадовая ў Гайнаўцы падтрымала гэту ініцыятыву і прызнала на пачатковыя працы 250 тыс. зл.

**Я. Козак**

## Догляд

Водныя суполкі Бельшчыны даглядаюць тысячу кіламетраў равоў на сенажацях, пашах і ворных землях плошчаю 14.787 гектараў, а таксама 601 гект. дрэнаваных земляў, 244 км рэк і каналаў, звыш дванаццаці тысяч загаспадараваных сенажяцяў — у тым ліку, 7.277 гект. наводненых.

Як бачым, ёсць што рабіць. (ся)

## Наш музыкант

Віктар Мартынюк — гэта малады яшчэ хлопец. Жыве ён у вёсцы Паўлы, што на Бельшчыне. Дзіцячыя гады правёў ён дома ў сваіх бацькоў на гаспадарцы. Пасвіў каровы і авечкі. Галоўнай яго пацехай быў губны гармонік. Калі пасвіў каровы, заўсёды ён на ім іграў. А як зайграе на гармоніку, аж люба паслухаць. Віктар Мартынюк пачаў падрастаць. Быў ён ужо здаецца ў V-тым ці VI-стым класе, калі яму бацькі купілі малога акардэоніка. Іграў ён цэлымі днямі. Потым пайшоў да музыканта Аляксандра Маргуна. Маргун некалькі разоў паказаў Віктару, як трэба іграць, і той больш не патрабаваў да яго прыходзіць. Мартынюк стаў хутка куды лепш іграць ад Маргуна. Пачалі наймаць яго на вяселлі, на забавы. Нікому ён не адмаўляў, і кожную просьбу з прыемнасцю выконваў. Пасля за заробленыя грошы купіў барабан. Меў ён добрага сябра Аркадзіка Мароза, які спрытна ўмеў барабаніць. Калі яны зайгралі ўдвух, не можна было наслухацца. Закончыўшы сёмы клас пачатковай школы, В. Мартынюк узяў на выплат вялікі акардэон «Вельтмейстар». Ну і быў ён задаволены з яго. Першы раз зайграў на ім на «запусты» ў сваёй роднай вёсцы. Каб вы ведалі, як ён іграў і якая была тады забава. Хто і ніколі не гуляў, то пачаў гуляць пад такую музыку. Весткі пра такога музыканта разыходзіліся ўсё шырэй і шырэй. Як усіх музыкантаў, так і Віктара сталі моцна любіць не толькі са сваёй вёскі дзяўчаты, але і з навакольных вёсак. Некаторыя так яго пакахалі, што без яго жыць не могуць.

Цяпер такі ж прыгожы час. Вясна — пачатак лета. Вечарам, калі з рэчкі выходзіць сівы, густы туман, Віктар бярэ акардэон і над рэчкай як зайграе якую-небудзь рускую, беларускую ці польскую песню, то аж сэрца замірае. Калі ён іграе, людзі не спяць, выходзяць на вуліцу і слухаюць. Такога музыканта, як Віктар Мартынюк з Паўлаў, няма мусіць на ўсёй Беласточчыне. Ён столькі прыносіць задавальнення людзям, парушае столькі душэўных пачуццяў сваёй музыкай, што проста нельга выказаць гэтага. Як добра, што ў нас у Паўлах ёсць такі цудоўны чалавек.

**В. Колька**
Паўлы

# Пчалавод Внушынскі

Ёсць такія гаспадары ў нас, якія толькі пачуюць, што каму-небудзь добра аплацілася тая ці іншая культура дык абавязкова і яны за гэта бяруцца, нягледзячы на тое, ці маюць да гэтага адпаведныя ўмовы. Нават можна сустрэць такіх гаспадароў, якія закантрактавалі па шэсць сельскагаспадарчых культур, а толькі з трома з цяжкасцямі ўпраўляюцца. Справа ў тым, што ўсяго належна не хапае часу дагледзіць.

Бывае гэтак і з жывёлагадоўляй. Сусед гадуе пяць кароў, дык і мне ж варта столькі ж гадаваць, таму што агульнае, супольнае, масавае. І так часам выходзіць, што неразважная колькасць кароў «дояць гаспадара» асабліва зімою і на прадвесні. Але гэта неразважныя, негаспадарныя сяляне так паступаюць. Добрай з'явай ёсць тое, што штораз больш гаспадароў такіх, якія пачынаюць займацца адным напрамкам як, напрыклад, толькі жывёлагадоўляй, альбо толькі кантрактацыяй паасобных культур або пчалаводствам.

Аб адным вядомым у нашай аколіцы пчалаводзе я хачу коратка расказаць. З'яўляецца ім Сцяпан Внушынскі з Крывой, што ў Бельскім павеце. Родам ён з Трасцянкі, год працаваў у Альшанскім ваяводстве. У Крывую прыехаў даглядаць спулдзельчую пасеку ў 1953 годзе.

Ад гэтага часу пачаў ён закладаць сваю гаспадарку. З жонкай Жэняй пабудаваў цагляны дом, хлеў з гліны, засадзіў сад, жываплот, а крутом абгарадзіў драцяной сеткай. Усе працы Внушынскага змеханізаваныя пры абсталёўванні вулей, таму што выкарыстоўвае да гэтага ўласны рухавік. Ездзіць матацыклам «Юнаком». Аддыхае ён заўсёды ў час тэлевізійных перадач.

У 1962 годзе атрымаў дыплом майстра пчалаводства. Валодае таксама багатай пчалярскай біблiятэкай, піша артыкулы са сваёй практыкі ў рэдакцыю «Пчалаводства».

Павялічана пасека Внушынскага з'яўляецца трэцяй. Прыходзіцца яму часта выязджаць і правадзіць лекцыі і вучыць адсталых плачаводаў.

**Уладзімір Весялоўскі**
Пасынкі

---

Скарыпін ад маіх крокаў прачынаецца, і такім цвярозым голасам, быццам і не спаў, пытае:

— Ну, што там у цябе на дарозе?

— Цішыня. Адно зайцы бегаюць... Мяняцца прыйшоў...

Між намі яшчэ ўчора ўстанавілася нейкае давер'е і разуменне. З першай сустрэчы Скарыпін паказаў, што лічыць мяне за чалавека, якога не трэба правяраць. Гэта ў яго голасе і цяпер.

— То будзі крайняга, чаго цырымонішся! — сіпіць ён.

А што буду рабіць я? Не. Хоць і быў у лагеры смерці, але вось гэтак заснуць на снезе немог бы. Асабліва цяпер, калі дзесяць сутак адсыпаўся ў цёплым сене суседскіх гумнаў, пакуль бацька здабываў мне боты, а кравец пацягваў сукном кажух. Усё роўна давядзецца хадзіць, мерзнуць, тупаць, каб не акалець. Ды і хлопцам хочацца зрабіць штосьці добрае:

— Перадумаў. Павартую, а вы паспіце сабе, ладна...

— Як хочаш...

У Скарыпіна выходзіць гэта па-мужчынску, ён ані не дзівіцца і не захапляецца маёй ахвярнасцю. Толькі выпроствае і згінае ногі, трэ калені, сыкае, а тады нацягвае на лоб вушанку, паварочваецца ад мяне і адразу засынае.

Вяртаюся на варту, нагінаю бярозку ізноў. Цяпер час вельмі доўжыцца, ды адступаць няёмка.

Дзесьці каля полудня па мёрзлай каляіне загрукаталі колы фурманкі. Каму спатрэбілася тут праязджаць? Насцярожваюся. На ўсякі выпадак адбяспечваю дзесяцізарадку, кладу на развілку ядлоўца, прыстаўляю прыклад да пляча, бяру на прыцэл дарогу.

Паказваецца белая конская галава з чорнымі мушкамі вакол вока. Выплывае канец аглоблі, хамут, набэдрыкі і магутны бок сівага каня. Затым паўзе перадок воза, а на ім у саматканай світцы — скурчаны фурман. Далей... немцы! Падцягнутыя, здаволеныя, бяспечныя, са свежымі тварамі, у пілотках набакір, з цыгарэтамі ў зубах.

(Працяг будзе)

55

## У Хітрай

У нашай невялічкай вёсцы, бо каля 50 хат, таксама ўсё мяняецца. Зараз будуюцца мураваныя дамы. За тры апошнія гады прыбыло іх аж пяць. Пачынае будавацца злеўня малака. Фундамент ужо зроблены. Сяляне грамадскім чынам возяць жвір і каменне. Немалую ролю ў гэтым адыгрывае сельскагаспадарчы гурток, які на будову злеўні прызначыў пэўную суму грошай.

**Грыша Парфенюк**
вёска Хітра



Дарагое «Сэрцайка»!

Надумалася я напісаць да Цябе і прасіць парады.

З Грышай пазнаёмілася я два гады таму назад. Жывем мы і працуем у адным горадзе. Ён часта прыходзіць да мяне і мы разам ходзім у кіно і г. д.

Але я ўжо заўважаю, што Грыша ад нейкага часу інакш стаў адносіцца да мяне. Заўсёды мае да мяне «прэтэнзіі», хаця ён ніколі не бачыў мяне з іншым. Тлумачыць, што хоча перакананацца, ці варта сябраваць (хадзіць) са мною. Я вельмі моцна кахаю Грышу і не ведаю, як паступіць у гэтай сітуацыі. Ці верыць яму, ці не. Баюся, каб ён мяне не пакінуў пасля гэтага, як удасца яму намовіць мяне. Не ведаю, ці не мае ён іншай дзяўчыны і так мо' толькі выкручваецца, што калі мяне не намовіць дык пакіне. Але я яго таксама ніколі не спаткала з іншай.

Парай «Сэрцайка», як паступіць, ці паслухаць яго ці не?

Галена

**Дарагая Гэленка!**

Вельмі добра, што ты ў самы добры час, як кажуць, напісала да мяне. Відаць з цябе разумная дзяўчына. Катэгарычна раю табе не паслухаць Грышы, не дайся намовіцца яму. Вельмі многа хлопцаў, якія нават кахаюць сапраўды, паступаюць у такі іменна спосаб. Бо што яны трацяць? Яны толькі скарыстоўваюць, а дзяўчатам бяда. А калі споўняць свае намеры, тады найчасцей пакідаюць, перастаюць кахаць, нават тыя, якім здалося, што яны сапраўды закаханыя. Таму кожная дзяўчына павінна шанаваць сябе. Калі ты паступіш так, як я табе раю, дык Грыша, калі цябе сапраўды кахае, яшчэ больш пакахае і больш будзе цябе цаніць, а калі толькі цябе зводзіць дык мо' і пакіне. Але ў такім выпадку не мела б ты каго шкадаваць, бо каханне без узаемнасці нікому шчасця не прынясло.

І яшчэ раю табе, паслухай маёй парады. Тады напэўна будзеш мне ўдзячна.

Усяго добрага жадае

**Сэрцайка**

# КІНО

Праграма

20 — 25.VII.1965 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Żebro Adama" (USA), 20—21. „Czas miłości" (rumuński), 22—23. „Pięciu" (polski), 24—25.

**Кляшчэлі**

„W pogoni za meteorytem" (czeski), 20—21. „O czymś innym" (czeski), 22—23. „Beata" (polski), 24—25.

**Нарва**

„Między brzegami" (polski), 21—25.

**Нараўка**

„Więzy krwi" (radz.), 21—25.

**Чыжы**

„Królowa Krystyna" (USA), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„My mężczyźni" (radz.), 21—23

**Бранск**

„Między nami złodziejami" (czeski), 20—21. „Skarb" (polski), 22—23. „Strzał we mgle" (radz.), 24—25.

**Орля**

„Dwója z wychowania" (radziecki), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Mein Kampf" (szwedzki), 20—21. „Życie raz jeszcze" 24—25. „Śmierć Tarzana" (czeski), 22—23.

**Міхалова**

„Noc szpiegów" (franc.), 20—21. „Zakochani są między nami" (polski), 22—23. „Na tropie policjantów" (angl.), 24—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**

„Car Kałojan" (bułgarski), 20—21. „Teresa Desugeraux" (franc.), „Głos ma prokurator" (polski), 24—25.

**Нурэц**

„Ulica nadmorska" (radz.), 20—21. „Podróż w kwiecień" (radziecki), 22—23. „Pięciu" (polski), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Macario" (polski), 20—21. „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 22—23. „Beata" (polski), 24—25.

**Янаў**

„Banda" (polski), 21—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**

„Zalotnik" (franc.), 24—25.

**Новы Двор**

„Zdradziecki strzał" (radz.), 24—25.

У мясцовасцях Дубіны, Райск, Сухаволя, Сідра, Шудзялава фільмы высвятляцца не будуць.



 

# Гумар і сатыра



## ДОБРЫ ЗРОК

— Гэта што вунь там уверсе, Марс?

— Не, Венера!

— Божа мой, як вы адрозніваеце дэталі на такой адлегласці?




**Перш чым стукаць кулаком пэ стале, паглядзі, ці не тарчыць с: стала цвік.**






— Як мы вам падабаемся?

**Станіслаў Шушкевіч**

### ПАПЯРОВАЯ ІСТОТА

Да кожнай справы падбіраў ключы,
Усім мараль чытаў, усіх вучыў,
Яго прамовы палкія абавязкова
Былі напісаны другімі слова ў слова,
А без паперы — вусны на замок,
Ці дубянеў язык, рабіўся, як калок.
Няма паперкі — і не варт граша...
Напэўна, папяровыя і розум, і душа.

— А ваўкі тут водзяцца?
— Не.
— А свінні?
— Па нядзелях трапляюцца...

## 1 x 3

— Дазвольце заважыць, сябры, што цяпер спорт пранікае ў найбольш глухія закуткі. Вось у нашай вёсцы зараз адбудзецца матч з камандаю суседняга сяла, — сказаўшы гэта, Кастусь выцер пот на ілбе і далей лапатаў свае мудрасці. — Цяпер не тое, што за цара: спатыкаліся вёскі толькі ў кулачным баю — падбівалі фанары пад вачыма, расшчаплялі насы на трэскі. Цяпер ўсё адбываецца культурна. І так, час пачынаць матч! — крыкнуў Кастусь і засвістаў, бы салавей - разбойнік.

На свіст выбеглі каманды. Усе наўкола дружна запляскалі ў далоні.

— Трымайцеся нашы!!! — крычалі адусюль.

Кастусь засвістаў перарывіста. На гэты знак спартсмены занялі свае месцы, левыя і правыя. Кастусь паставіў пасярэдзіне мяч і ледзь прасвістаў, як мяч маментальна апынуўся паміж нагамі спартсменаў.

Мяч захапіў левы край і пагнаў яго да варот праціўніка. Ратуючы сітуацыю правы край суседзяў кінуўся наперарэз :, як бы спатыкнуўшыся, упаў пад ногі таго, хто гнаў мяч. Той пераваліўся цераз патыліцу і застыў, бы каўбаса на патэльні.

Кастусь засвістаў і гульня спынілася, а ўсе наўкола крычалі, раўлі.

Неспадзявана, пакалечаны, устаў і кульгаючы пайшоў на сваё месца. Кастусь аднавіў гульню. Ён меў ужо намер выклікаць запасовага спартсмена, калі заўважыў, як пакалечаны зноў схапіў пад свае ногі мяч і пагнаўся з ім, бы арабскі конь, проста на вароты праціўніка. Аднак абаронца перахапіў ад яго мяч і перакінуў у цэнтр. Пакалечаны зусім не выглядаў на пакалечанага, ён кінуўся ў цэнтр, штурхануў локцем аднаго - другога, і дабраўся да мяча.

Кастусь засвістаў.

Суседзі пакрыўдзіліся і пачалі вішчаць.

— На мыла суддзю Кастуся, на выган яго, кароў пасці!

Хтосьці кінуў у Кастуся бутэлькаю ад «мандарынкі», зараз потым мякка пляснуў па карку жоўты агурок - насеннік. Каля мяча ўчынілася звалка. Адзін спартсмен ад моцнага ўдару абвесіў бараду, бы Напалеон на Эльбе, і сеў на траву, лёг на ёй крыжам. Да пабітага падбеглі сваякі і знаёмыя. Узнялася вялікая трапня ў хвост ды ў грыву...

Хтосьці спытае, які быў рэзультат матча? Ведаю і скажу: рэзультат быў 1:3, у карысць нашай роднай вёскі. З нашай каманды адзін ходзіць на перавязку да пункту аховы здароўя, а з суседняга сяла аж трох!

Што ж, людзі добрыя, відаць наша моладзь забыла ў сваёй цяперашняй мудрасці, што ад стварэння свету далікатнасць яшчэ нікому не пашкодзіла. Без далікатнасці цяжка жыць: трэба хадзіць на перавязкі або ляжаць у гіпсе...

*Дзядзька Левон*

### АДПАЧЫЎ

— Вечарам я цудоўна правёў час!

— Вы напэўна былі ў тэатры?

— Я — не. Была мая жонка!

### АХ, ВОСЬ ЯК!

Гаспадыня пакоя ўсхвалявана стукала ў дзверы свайго жыхара.

— Што вы там робіце!

— Нічога, я толькі іграю на скрыпцы.

— Дзякуй Богу, — адказала гаспадыня, — а я ўжо думала, што вы адпілоўваеце ножкі ў ложку.

### УРОК ХІМІІ

Прафесар: — Што станецца з золатам, калі яго пакінуць на адкрытым паветры?

Вучань: — Яго ўкрадуць.

### БЫВАЕ І ТАК

— Што за моладзь пайшла! — бушаваў Віктар у аўтобусе. — Ніякай прыстойнасці, ніякай ветлівасці!

— А чым жа вы незадаволены? — спытаў сусед. — Малады чалавек адразу ж уступіў вам месца, і вы сядзіце!

— Так, але ж мая жонка ўсё яшчэ стаіць!

### ТАКТОЎНАСЦЬ

— Бачыце, паважаны, калі мы з жонкай сваромся, дык робім гэта без сведкаў, дзяцей мы на гэты час выганяем з дому.

— Ах, вось як! Ну, цяпер мне зразумела, чаму вашых дзяцей я ўсё бачу на вуліцы!

**Песні па заяўках**

Па просьбе настаўніцы **Валі Вакулы**, з вёскі Цялушкі, Бельскага павета, змяшчаем песню:

## GWIAZDY BIWAKOW




*Słowa:*
*Henryk Gaworski*

*Muzyka:*
*Mateusz Swięcicki*

*Tej gwiazdy, co błyszczy*
*wysoko wśród liści*
*Nad ognisk harcerskich dymami,*
*Nie zgubisz już nigdzie —*
*Przypłynie i przyjdzie*
*Przez wiatr i deszcze, i zamieć.*
*Ref.*
*Zapachnie ci*
*Woń sosnowych bierwion*
*Wyciśnie łzy*
*Ogniska cierpki dym*
*Otuli cię*
*Gasnącej zorzy czerwień*
*W namiotu cień*
*Powrócisz sercem swym.*
*Ta gwiazda ci spłynie*
*Ze źrenic dziewczyny*
*Tej jedynej, jedynej na świecie*
*I nagłym płomieniem*
*W przyjaciół spojrzeniu*
*Serdecznie, gorąco zaświeci.*
*Ref.*
*Zapachnie ci...*
*Ta gwiazda, co błyszczy*
*Wysoko wśród liści*
*To gwiazda harcerzy i ptaków*
*Ukochasz ją mocno,*
*Jak życie i wiosnę,*
*Jak radość harcerskich biwaków.*
*Ref.*
*Zapachnie ci...*



— Качай мацней, мала-ко яшчэ не цячэ!..


**Ніва**

Adres redakcji Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony red. naczelny 25-05 centrala 34-41 do 45 Warunki prenumeraty miesięcznie – 2,40 zł. kwartalnie – 7,20 zł. półrocznie – 14,40 zł. rocznie – 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje – Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bltk C-3